* * *

*Калі пішуцца вершы,*
*то можна ўміраць паступова,*
*Смерць па кроплі смакуючы,*
*быццам бы мёд і цыкуту.*
*І вітацца з аднымі крыжамі,*
*і верыць у слова,*
*І забыцца на тое,*
*што кроў твая стала атрутай.*

*Калі пішуцца вершы,*
*то можна не лгаць пра адзінства*
*Між сабою і кожнай*
*быдлячай асобай на свеце.*
*Як інфанта Веласкеса,*
*выйсці за межы карціны.*
*І пабачыць дэталі,*
*не будзе якіх на партрэце.*

*Калі пішуцца вершы, то можна —*
*пра крылы і волю,*
*Не саромецца пафасу.*
*Быць і апошнім, і першым...*
*Не ілгаць, не ілгаць...*
*Божа мой, як спакусна, як поўна,*
*Калі пішуцца вершы...*
*А яны ўсё не пішуцца, вершы...*

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
Р82

*Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў».*
*Выпуск 16.*
*Заснаваная ў 2006 годзе.*

**Рублеўская, Л.**
Р82 З'яўленне Інфанты : вершы / Людміла Рублеўская. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 112 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 16).
ISBN 978-985-7119-63-9.

Новы зборнік Людмілы Рублеўскай — гэта гістарычныя вершы-міфы пра Беларусь старасвецкую і рыцарскую, умоўныя вершы-«дакументы» пра Беларусь інсургенцкую, расстраляную... І рэаліі Беларусі сённяшняй, фантасмагарычныя і трагедыйныя, калі часам ратуе толькі іронія. У канфіскаваным маёнтку ажывае зброя былых гаспадароў, у свядомасці часу змешваюцца бронзавыя сны і віно з дзьмухаўцоў, у краіне хома балоцікусаў забытыя могілкі — у попеле спаленых кніг... Вершы філасофскія, інтэлектуальныя, з горкай усмешкай і незнішчальным нацыянальным рамантызмам... А каб канчаткова завяршыць шлях ад пафасу, зборнік завяршае абсурдны і вясёлы «Бестыярый майго савецкага дзяцінства», дзе сустракаюцца кілька і Чабурашка, кракадзіл і таямнічы персанаж «Ікуку».

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7119-63-9**

## ІНСУРГЕНТ

Я пакінуў свой край, як пасечаны сад веснавы.
І пялёсткі яго, быццам раны, душу абляпілі.
Між Усходам і Захадам —
круцяцца іх жарнавы —
Перамелены лёсы, падзелены нават магілы.
Па бясконцых шляхах
я праношу сваю Беларусь,
Між пустынных пяскоў
і вільготных лясоў нетутэйшых.
Я служу толькі ёй —
а яшчэ незямному цару.
А зямныя ніколі не ўбачаць,
як спешыцца вершнік.
Я пакінуў свой край,
каб вярнуцца, як вернецца ноч
На купальскія травы,
як вернецца стрэльба за плечы.
І жыццё маё станецца вельмі малою цаной,
Калі ссечаны сад
новай квеценню
выбухне ў вечнасць.

## МІХАЛ ВАЛАДКОВІЧ

Разбівайце свае чаркі.
Шляхціц вечнага не мае.
Дзе гуляе Валадковіч —
льецца кроў з віном удосталь.
Ні малітвы, ні пагрозы
яго сэрца не кранаюць.
На сармацкім на партрэце
разглядайце яго постаць,
А пры кожнае сустрэчы —
вочы долу апускайце:
Шабля пана — як маланка,
нораў пана — як паводка.
Ён не праміне нікога
і адзін за ўсё заплаціць.
Той, хто плаціць, мае права
адсячы руку за плётку,
І ў апошнім сутарэнні
катаў высмеяць, і потым
Нераскаянай душою,
белым прывідам туляцца.
Дзе віно тваё, дзе шабля?
Ты слабы, нібыта подых.
І пускае хлопчык змея
з камянёў твайго палаца.

## *ПРЫДВОРНЫ ПАЭТ*

Сысці б да вершаў старых,
сысці да сябе былога...
Лісты правінцыйнай дзевы
гараць у вясёлай грубцы.
Галлё за вакном, ці стома,
да ночы бліжэй — да Бога.
І рукапісаў — як лісця,
цыдулак ад самагубцаў.
А ў рамачцы залачонай
мой князь пазірае горда.
Прыдворны паэт ніколі
не стане вандроўным бардам.
Вось толькі мае паперы
бялеюць глухой самотай.
А тыя, што спрэс спісаны,
нічога не будуць варты.
І толькі маленькі сшытак,
з шурпатай паперы сшытак,
Хавае мяне былога,
гукае мяне былога...
Ды ў рукі цвікі забіты,
і дротам душа прашыта,
І ўсе пярсцёнкі на пальцах —
рукі не прыўзняць да Бога.

## *СВЯТЫ КІПРЫЯН*

Магічныя кнігі варушацца, як жамяра,
У вогнішчы разам з гардыняй і пожадам грэшным.
Душа вызваляецца —
зрэзана быццам кара,
І дрэва становіцца чоўнам,
і зрушвае межы.
Што — розум, здабыты
са студні людской мітусні,
Які прымушае сварыцца за званні і месцы?
А ясныя веды струменяць,
як дождж, з вышыні.
Далоні падстаў —
і адмоўся ад мармуру лесвіц.
Адкрыйся для ісціны...
Ды не забудзься забыць
На ўдзячнасць і медныя высілкі
славы відочнай,
Бо роўны з табою
і юрад ля брамы царквы,
І голуб у небе,
а можа, — мудрэй і прарочай....
Нібыта матыль,
што пакінуў свой кокан пусты,
Не вусень — але
далучыцца не змог да крылатых.
І курчацца ў попеле
попельнай славы лісты,
І львоў Калізей закупляе,
як хмары, калматых.

## *УРШУЛЯ*

Напудраны парык. Зацягнуты гарсэт.
Глыбока не ўздыхнуць,
далёка не ад’ехаць.
Як надмагільны стод,
складаецца санет
З цяжкіх, каменных слоў...
Ляціць да неба рэха...
Так пішуць эсэмэс, цыдулкі і лісты,
З такім жа пачуццём — раманы і трактаты.
Сціскаецца гарсэт сусветнай мітусні,
Шукаюць сноў і слоў
натхнёныя дзяўчаты.
Іх доля — вышываць,
а пэндзаль — для мужчын.
Не ладзіць пірамід,
цяжкой не бразгаць зброяй.
Улі ў атрамант кроў —
не ўхваліць ні адзін.
На гэта прывілей
у мніхаў і герояў.
Як перлы, клавесін рассыпаў менуэт.
Схавай чарнавікі ў куфэркавыя сховы.
Напудраны парык.
Зацягнуты гарсэт.
Пад туфлікам хрумсцяць
атручаныя словы.

## КАЛЯДНЫ КАРНАВАЛ

### *Балада*

Маляваныя анёлкі
плачуць срэбным канфеці.
У маёнтку адабраным
карнавалу час прайсці.
Гэта сведчанне, што новы
гаспадар надоўга тут,
І ягоныя нашчадкі скажуць:
«Тут наш родны кут».
Госці ў строях залачоных —
ззяе масак чорны шоўк.
Працякаюць цераз дзверы,
бы ў гадзінніку пясок.
Кружаць, кружаць, бы ў шампанскім
залатыя пухіры.
І ўсміхаюцца пыхліва новыя гаспадары.
А старыя — у Сібіры,
у халоднай глебе спяць.
І на гэтым свяце здрады
іх няможна ўспамінаць.
Як палалі іх парсуны,
шафы, куфры, цэлы свет...
Толькі зброя засталася.
Зброя — гэта рарытэт!
Шаблі, дзіды, шастапёры —
на кілімах, на віду.
Помняць Воршу і Дуброўна,
Грунвальд, Сінюю Ваду.

Інсургентаў пассылалі —
толькі помняць іх мячы:
На іх сталі прысягалі
хіжых прыхадняў сячы.
Карнавал шуміць у залах,
край маўчыць — бы ў ноч кірмаш.
Ціха на сцяне маёнтка
ссунуўся стары палаш.
Закрычала мандрагора,
упусціў Харон вясло.
І па мармуры каміна
штось барвовае сцякло.
У зашклёнае вітрыне
варухнуўся арбалет...
Засталіся перад ганкам
шэрагі пустых карэт.

*2015*

## ГОСЦЬ

Белы бліскучы кілім
        ляжыць на двары фальварка.
Цёмны ланцуг слядоў
        цягнецца з белага ганка.
Сляды апушчаных крыл —
        як дзве баразны — па снезе.
Дыханнем вогненным госць
        дарогу сваю накмеціў.
Фальварак маўчыць, нібы
        заваяванае царства.
А ў вёсцы далёкай люд
        косткі мые вядзьмарцы,
Што ў тым фальварку жыве,
        прыгожая, як лілея,
І неба штоноч над ім,
        нібыта кроў, палымнее,
І срэбны згасае смех,
        і келіх аб келіх б'ецца,
І ведае вёска ўся,
        з кім вядзьмарка вядзецца,
Бо ранкам сочыць за ёй
        не адно цікаўнае вока,
Як праводзіць яна
        свайго каханага цмока.

* * *

*З рамана «Авантуры драгуна Вырвіча»*

...Места, якое не помніць
палеглых за волю герояў,
Будзе ізноў руйнавацца,
і мур ператворыцца ў друз.
Тут на магілах будуюць
крамы, і храмы, і мроі,
А летапісы напіша
добра аплочаны хлус...
Места, што выплывае
з туману сівых стагоддзяў,
Нібы карабель патанулы,
без ветразяў і стырна,
Наймае новых матросаў,
а тых, што застылі ў лёдзе
Ці сталі травой марскою, —
помніць хваля адна.
І я праходжу па бруку,
нібы на палубе хісткай,
І ведаю, што аднойчы
і я звалюся з яе.
А места і не заўважыць,
і толькі п'яны юрыста
У ратушы тэстамент мой
у іншы стос пакладзе.

## *ГЕТМАН*

Воскам чарнёным лісты запячатваць пачаў,
Спаць развучыўся
на волкай траве прыдарожнай.
Ды не здымаюцца пальцы з наверша мяча.
Без асцярогі і гетману сёння няможна.
Быццам у куфры каштоўным,
зачыніцца ён,
І са сцяны старажытную лютню здымае.
Колькі забітых!
А Бог не пытае імён.
Колькі забытых!
А памяць імёны хавае.
Грае музыка,
якому музыкам не быць.
Плача паэт,
што не стаўся нябёснаю лірай.
...Кліча кароль каралеўства сваё бараніць,
Слугі чакаюць, каго ты адорыш шчасліва...
Лютня змаўкае.
Вайсковец аблашчвае меч,
Просячы трохі счакаць да варожага сэрца.
Воблака срэбнае
ціха саслізгвае з плеч,
Плашч з аксамітнай падбіўкай
на плечы кладзецца.

## *ПАЦУЧЫНЫ КАРОЛЬ*

А на бруку святлеюцца не аскалёпкі скрыжаляў —
Каляровыя змятыя стужкі, парваныя маскі.
Адгуляў карнавал.
Гараджане ўсю ноч святкавалі
Перамогу над шэрым натоўпам, хвастатым і ласым.
Потым цэлымі будуць
каўбасы, сыры і вяндліна.
Ноччу пернік цукровы зубамі ніхто не накмеціць.
Пацучыны кароль пазірае з падстрэшша бяссіла
На спустошаны горад
і мора, што сталася смерцю.
Як благаў ён, спрабуючы іх затрымаць,
патлумачыць,
Што людская мелодыя —
толькі атрута, не болей.
За музыкам пайшлі, папаўзлі, каб наяве пабачыць
Пацучынае шчасце,
краіну без страху і болю.
Пра каўбасныя дрэвы
свірэль напявала ім ката.
І старыя з аблезлаю поўсцю, і пацучаняты
Беглі ў хвалі з надзеяй,
што рушаць да волі багатай.
І над горадам цень небыцця
распасцёрся хвастаты.

Пацучыны кароль пазірае бяссіла на горад.
Ды нянавісць такая —
ці можа застацца бяссілай?
Бо музыка вяртаецца,
злосны, бясхібны і горды,
І рыхтуецца мора
людскою зрабіцца магілай.

## ЦМОК

Кроў апошняга цмока зялёная,
быццам трава,
Падрадкоўнік жыцця — гэта смерць.
Пачытай мае вершы.
Людзі створаны, каб забіваць,
а пасля — адымаць,
Цмокі створаны —
каб сцерагчы каралеўскія вежы.
Кроў зялёная на брукаванцы —
як вадкі агонь,
Як сліна́ апраметнай,
прапальвае цвёрдую глебу.
Забірай свае скарбы, герой,
і купі сабе трон,
І забудзься, як вочы пагаслі
бурштынавым небам.
Перакладзены моваю смерці
дамы і двары,
Ад караляў бурштынавых
горача скуры дзявочай.
Ля спустошанай вежы
зялёны трыпутнік гарыць,
І глядзіць курослеп,
быццам цмока забітага вочы.

## ***ВЕЖА***

Гліняная чара,
якой дакранаўся сын цеслі,
Як вечнае сонца,
той дзень асвятляла ўгары.
Зялёным атрамантам вежы абрысы накрэсліў
На жоўтай паперы
прыдзірлівы дойлід стары.
І вось пацягнуліся муляры і хлебапёкі
Да месца будоўлі,
І свет запаволіў хаду.
І вежу, як хвалі — скалу,
абцякаюць аблокі,
І той, што хаваецца ў ёй,
непадлеглы суду.
Суровая варта ахоўвае княскую вежу.
У спратах яе назаўсёды знікаюць віжы.
А скуру каменную
трэшчыны-зморшчыны рэжуць,
І, як спрацаваныя рукі,
цямнеюць глыжы.
Ніжэюць муры ў атачэнні магіл гаспадарскіх.
Байніцы шырэюць,
і вось на падмурку — трава.
А чара, якую святлом напаўнялі нянаскім,
Ні кроплі не страціла
ззяння свайго хараства.

* * *

Мармуровы герой на букеты мае не зважае.
У расколінах рукі яго,
а ў вачніцах — залева.
А дарога сядзібнага парку,
нібыта вужака,
Выгінае сваё брукаванае цела між дрэваў.
Да каменных не страшна хадзіць.
Расчароўвацца позна,
А насмешлівасць ім не ўласціва.
Каменныя вусны
Крыўдным словам не зганьбяць.
Ігліцай засыпалі сосны
След крывавых дзяянняў героя
і вечнасці руны.
Тут лацвей, чым з жывымі...
Яны аплятаюць, як змеі,
Злой увагай, зайздрослівым поглядам,
прагнай любоўю.
У цябе не адняўшы нічога,
любіць — не умеюць.
А тваёю любоўю сілкуюцца,
быццам крывёю.
Мармуровы герой, безыменны,
як гэтыя хмары,
Застаецца на варце,
бы сонца ў разбітае шыбе.
Водар восеньскіх кветак гаркавы,
як дым ад пажару,
У якім інсургенцкая наша
згарэла сядзіба.

* * *

Мой першы рыцар не са мной.
Плыве ладдзя паўз нашу выспу.
На мокрых дошках спіць герой.
У хвалях месяц, быццам рыба.
Што я магу? Глядзець, нібы
Мой позірк — мост праз прорву смерці.
Глядзяць цікаўныя рабы —
З вачэй маіх слязу прыкмеціць.
Не, не дазволю груганам
Піць з возера апошняй мроі.
Няхай гадаюць — колькі нам
Граху і шчасця Бог дазволіў.
Не высвеціць паходня ім
Ні рысачкі маёй жалобы.
За каралём пайду сваім
У сэрца скрадзенай Еўропы.
А ты сплываеш у туман,
У ноч, у вечную дарогу...
І слёз няма, і слоў няма,
І больш няма ў мяне нічога.

## *БАЛАДА ПРА БАЛОТА І РАЎНІНЫ*

Да крыніц выпаўзаюць змеі,
Зоркі падаюць у пясок.
Не чапайце крохкай надзеі,
Што асочнік прымружыў зрок,
На сцяне паснула ахова,
І на сцежцы згасла раса.
І затоплены напалову
Цемрай срэбнаю царскі сад.
Ноччу гэтай у сутарэннях
Ценем станецца менш няхай.
Да свайго балотнага племя,
Вязень стомлены, уцякай.
Данясі трывожную вестку
Пра суседзяў з жоўтых раўнін.
Іх нянавісць — сівыя рэкі,
Іх зайздроснасць — нястомны млын.
Перамелюць усіх, хто побач,
І прыўлашчаць кожны агмень.
На балотных людзей іх вочы
Пазіраюць, нібы праз цень.
Зліты золатам іх адзежы,
Іх палі паліты крывёй.
З чарапоў паскладаны вежы.
Спяць і трызняць чужой зямлёй.
Ноч стуліла варце павекі,
Разаслала ўцёкам траву.
Люд балотны выслухаў вестку
І вярнуўся моўчкі ў дрыгву.

## ПЯЛЁСТАК АЛЕНЫ ФОУРМАН

Пэндзаль губляе старая рука мастака.
Юная Элен яго падбірае цярпліва.
На палатне ружавее, бы золак, шчака
Німфы, якая блукае між ціхіх аліваў.
«Ну, дамалёўвай!» — баіцца прамовіць услых...
Зноў задрамаў проста ў крэсле нямоглы маэстра.
Элен кранае бязважка, як дотык пчалы,
Дзюбкаю пэндзля вільготныя фарбы шэдэўра.
Гэты пялёстак на ружы — ён створаны мной!
І азіраецца спуджана — муж не заўважыў?
Німфы напоўнілі смехам празрыстым пакой.
Проста мазок — але іншыя ўсе пераважыў.
Хай застанецца — хоць росчырк жаночай рукі!
Як бы хацелася пэндзлем прайсціся адвольна.
Толькі мадэлек ніхто не бярэ ў мастакі.
Жонка і муза... І гэтага, пэўна, даволі...
Рубенс дрыготкай рукой папраўляе каўнер,
Белы, як пена марская ля торса Трытона.
Элен ізноў замірае, маленькі жаўнер...
Ззяе злачынны плёстак нябёснай каронай.

### ***ГЛАДЫЯТАР***

Я выйду на арэну, каб забіць.
Пясок усмокча кроў і гнеў хвілінны.
Рабоў павінны забіваць рабы,
Іх лёсы, як збаны з чырвонай гліны.
Я выйду і заб'ю. Або мяне
Чужой удачы пакладуць пад колы.
І ападуць аблокі, быццам снег,
І цэзар палец свой апусціць долу,
І — аніяк не разарваць ланцуг
Агульнай прагі смерці. Ёсць дарога —
Меч выпусціць аднойчы з дужых рук.
А на трыбунах — рогат, рогат, рогат...

## *АБОЗНЫ ЛЕКАР*

Зоркавед, чэмпіён
нарыхтоўкі віна з дзьмухаўцоў,
Бедны лекар з абозу,
стралок і ваяка ніякі,
Бітвы, бойкі і сечы
ты бачыў праз мяса і кроў,
А яны што ў сваіх, што ў чужых —
аніякай адзнакі.
Смерць прыходзіла госцяй,
сядзела ў цябе за сталом,
За віном з дзьмухаўцоў
пра забітыя зоры маўчала.
І ці шабляй па целах,
або па паперы сцілом —
Смерць пачуе і прыйдзе,
як хвалі прыходзяць да скалаў.
Зоркавед і трунар,
Гіпакрату не даўшы зарок,
Ты сшываў тыя раны,
з якімі сыходзяць да Бога.
...І палеглі два войскі
у чорны ад сажы пясок,
І віно з дзьмухаўцоў
ты з сабой прыхапіў у дарогу.

### ТУТ

Крыўскія могілкі —
быццам асохлае мора.
Тут баранілі каморы,
і корсты,
і норы.
Тут прадавалі
і нат не лічылі пянёндзаў.
Мёд застываў і гарчэў
у паваленых корстах.
Тут нашывалі на скуру
жалезныя плыткі.
Зубраў харты ашалела
хапалі за лыткі.
Мералі локцем сукно,
падразаючы рэшту,
І ад чужынцаў хавалі
няўлоўнае нешта.
Так балаты
не паказваюць тванiстых нетраў.
Так захіналіся ў скуры ваўчыныя
неўры.
Так паміж буквіцаў
праўду хаваў летапісец.
Крыўскія могілкі не абысці —
хоць забіся.
Пчолы вяртаюцца ў вуллі,
вужакі ў руіны...
А крывічы на магілах
будуюць хаціны.

## ФАЛЬВАРАК

Бачыць прарочыя сны развучыўся
і іх тлумачэнню,
Спяць цвыркуны між бярвенняў
старога фальварка.
І не з’яўляюцца цені з мінулага,
любыя цені
З юных гадоў,
абарваных пятлёю і плахай.
Сны перагледжаны.
Снегам засыпаны дні і магілы.
Томік Вергілія шашаль праеў,
як сумленне і памяць.
Сны хоць вярталі
надзеі, адвагу і сілы,
Ну а цяпер застаецца
співацца і марыць,
Што ля калонаў драўляных фальварка старога
Вершнікі спешацца,
шаблямі грукнуць у дзверы.
Смех малады
сны прагоніць у цёмных пакоях,
І, як калісьці,
пачнуцца размовы пра волю і вернасць.
Дзе вы, наступнікі?
Той, хто сяброў перажыў, вас чакае.
Тут — ваш прытулак
і мудрае слова дарадцы.
Шаблю не ўзняць,
ды збярог ён і стрэльбы, і шаблі,

І — успамін пра пятлю —
не пустую —
на пляцы.
Сыплецца снег цераз сны,
цераз цені
і дах праламаны.
Дошкамі ўсе аканіцы даўно ўжо забіты
крыж-накрыж.
Гінуць фальваркі і замкі
на могілках зброі схаванай.
І не вярнуўся
аддадзены катам табою таварыш.

## ГАЛЬШАНСКІ ЗАМАК

Пад намі каменне, і цэгла, і горы зямлі,
Якая калісьці была чалавечаю плоццю.
Навошта па продкавы скарбы сюды мы прыйшлі?
Хто смерць абкрадае —
жыццём за здабытае плоціць.
Апошняя свечка вось-вось перастворыцца ў воск,
З якога паўстала калісьці
пад пальцамі мнішкі.
Дыханне каханай,
нібыта сляпы матылёк.
Чакай, не злятай...
Я паветра аддам да кілішка...
Чакай... Мы паўстанем,
мы вернемся на Беларусь,
Мы сходамі пройдзем — два цені —
і моцных абудзім.
І пліты падымуць,
і грудзі зямныя ўзарвуць,
І золата продкаў здабудуць бясхібныя людзі.
Не веру, не веру,
што вязнямі стануць яны,
Як мы і як тыя, пад намі,
што верылі ў волю...
Засыплюць са скарбамі разам...
Былі каб адны
Руіны — не замкі... Каб іх не чапалі ніколі...
Каменні, каменні...
Каменнямі поўніцца край.

Хоць час адлічыўся,
звaны не чутны ў сутарэнні.
Расколаты панцыр,
і зрэзана з дрэва кара.
Па сходах памерлага замка
сыходзяць два цені.

## *СТАРЫ ВОЙ*

Лёс для таго,
хто вярнуўся з прайгранай вайны, —
Толькі забыцца,
як сталі з муроў — валуны.
Воя старога
не любяць пускаць у дамы.
Ён не ўсміхаецца,
вечна маўчыць, як нямы.
Колькі ні просяць
расповедаў з дзён баявых —
Вечна ў адказ
толькі сумны, як могілкі, ўздых.
Гэткі сусед нам дастаўся...
Маёнтак ачах.
Лётаюць чорныя цмокі
туды па начах.
Белыя вершнікі
носяць туды туманы.
Кажуць суседзі:
няхай не прыйшоў бы з вайны.
А па начах над стамлёным
схіляецца Бог:
«Ты перамог...
Ты вярнуўся, і ты перамог».

## *РАССТРАЛЯНЫМ ПАЭТАМ*

*Цыкл вершаў з рамана «Забіць нягодніка»*

### *1*

Вяртаць з небыцця вас не варта...
Вядома, не варта...
Вы ў неба сплылі —
і забылі пра наша балота,
Дзе вуліцай вузкай
начная праходзіла варта,
Дзе крылы даюцца —
ды лётаць чамусь неахвота.
Сцяну, быццам воспа,
пабілі расстрэльныя кулі.
Выбоіны бачна —
а кроў пасплывала з дажджыма.
У жоўтым пясочку
паэты і каты паснулі,
І шашаль да німба
залочаных з'еў херувімаў.
У тэчках са справамі следчымі
спіць Незалежнасць,
Між шчырых даносаў,
нібыта між скураў змяіных.
Рукою, да мура прыбітай,
напішуцца вершы.
І Бог Беларусь пералепіць з палепшанай гліны.

*2*

Выпіць атруту.
Нічога не помніць пра зоркі
У вітражах ацалелага дому пакуты.
Поўня, нібыта адзінае злоснае вока
Чорнага звера, які да  граніту прыкуты.
Выпіць атруту...
Мой келіх запомніў адбіткі
Рук тваіх цёплых...
Мае ж схаладнеюць навечна.
Колькі разумных...
А мудрых няма і вялікіх.
Нас падзялілі на спісы, участкі і рэчы.
Зоркі шкляныя
Працэджваюць погляды поўні
Гэтак ашчадна,
Як злая шынкарка — гарэлку...
Цемра і ціша.
Ты проста, як рану, запомні
Вочы мае... І табой цалаваныя вейкі.

*3*

Жоўтае лісце на чорным граніце магіл —
Быццам для смерці ляжаць залатыя манеты.
Неба крумкач атрасае з натомленых крыл
Проста на штучныя кветкі каля пастамента.
Як прабачэння прасіць у таго, хто заснуў,
Ці — верагодней — прачнуўся ад нашае явы?
Лёс разбіваецца, як аб глухую сцяну,
Аб міласэрнасць і штучныя кветкі дзяржавы.
Толькі рука твая — цёплая і пад дажджом —
Мне не дае саступіць са сцяжынкі да згубы.
Ходзім па могілках, быццам прыглядваем дом.
Толькі лістотай яго не аплоціш, мой любы.

*4*

Гэта гульня...
Усяго толькі — наша гульня.
Што нам да тых,
Хто спрабуе зямлю перайначыць?
Альбарутэніі позірк, як рана, гарачы,
Сонца маё... Ты забіла мяне, як ягня
На ахвярніку белым...
І кроў — паласою — на белым...
Ваўкалакі правылі маю пахавальную ноч.
Час, як рана, загоіцца.
Лёс разаб'юць, як вакно.
Гэта толькі гульня...
І ўсяго толькі — мёртвае цела.

*5*

Рана на рану кладзецца, як лёд — на крышталь.
Падае сэрца ў халодную яміну болю.
Сонца маё, мой далёкі святарны Грааль,
Я не пабачу цябе, я змірыўся з «ніколі».
Іншы, не спэцканы грэшнаю страсцю сваёй,
Не Ланцэлот, каралевай чужой цалаваны,
Пройдзе праз могілкі, не сцеражоны змяёй,
Чару не вып'е з крывёю з уласнае раны.
Кропля атраманту ў шклянку — няма чысціні.
Блазнам не месца ў святыні. Смяротнае джала.
Мой беззаганны, на камні дарогі зірні —
Кроў мая шлях для цябе на камнях пазначала.

*6*

Свечкі Дзядоў на магілах трымцяць безыменных,
Вершы спалёныя ў восеньскім лісці шапочуць.
Выбіты кулямі вашы імёны на сценах
У сутарэннях, дзе сёння пяюць і рагочуць.

Кат дажывае, як пан, біяграфію ката.
Ведае — вуліца ў гонар яго назавецца.
Косці паэтаў маўкліва ляжаць пад асфальтам,
Вецер да свечкі ляціць, быццам куля — да сэрца.

*7*

Горыч і слодыч мёду,
якому не даў змясціцца
У Богам табе адведзеныя,
не залатыя соты,
Стануць тваёй атрутай.
Апошнім глытком вадзіцы,
Якога не дапрасіцца
ад брата Лазара ўпотай.
Зямля ў крыжах, нібы ў дзідах.
Пустэча — балючай болю.
Будуй высокую вежу
з наймоцнай слановай косткі —
Народжаны быць пчалою
ніколі не зменіць ролі.
Ён мусіць збіраць да скону
зямлі сваёй водар Боскі.
І ўмерці, не даляцеўшы
да самай апошняй кветкі,
І ўпасці на стос паперы
на паўрадку, на паўфразе.
А вулей у тую хвілю
не сціх і на змірг павекаў.
А вулей, твой мёд забраўшы,
не ўспомніць цябе ні разу.

* * *

*Памяці Зміцера Сідаровіча.*
*...Грай, дудар...*
**З песні**

Ідзе дудар па полі тумановым,
Дзе, быццам душы,
шэпчуць чараты,
Дзе ў чорных хвалях
патанаюць словы
І хрыпы зноў прабітае дуды.
Ідзе дудар.
Ладдзя яго чакае,
Гайдаецца на хвалях,
быццам спеў.
Ах, колькі галасоў на ёй сплывае,
Каб край знямеў,
зміръуўся і знямеў.
Маладзіковым сонцам
ззяе кветка,
Сарваная з шыпшыны там, дзе дом.
Змаўкаюць вайскаводцы і паэты
Пад гэтым чорным забыцця крылом.
Змаўкаюць дуды,
лютні, акарыны,
І рыцара не бачна на кані.
Як талеры няздзейсненай краіны,
У нашых зрэнках
пагасаюць дні.

Нібы ад болю,
мост дугой сагнуўся,
Пад ім ладдзя апошняя плыве.
Іграй, дудар,
дзе б ты ні апынуўся.
А мы пачуем.
Беларусь жыве!

*2014*

## ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ

Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей.
Ісці на святло — дзеля зніклых у цемры людзей.
Скрозь цемру ісці — і рабіцца драбніцай святла,
Каб праўда здабытая
сэрца жывым апякла,
Каб крокі дзядоў не расталі, як сон у траве,
Каб людзі спазналі аднойчы —
Айчына жыве!
У жоўтых паперах
памерлыя лёсы маўчаць,
Эпоха маўчыць,
нібы скошаная сенажаць.
Тут цені блукаюць
ды гінуць знямелыя дні.
І трэба ісці на схаваныя ў цемры агні,
Не здрадзіць, не кінуць забытымі продкаў сваіх,
Няхай ты згараеш і сам па дарозе да іх.
Прайсці лабірынт свой апошні
і ў свеце святла
Любіць Беларусь,
што цябе цераз цемру вяла.

*24.08.2011*

* * *

Між камянёў змяя слізгае,
Вільготны след — нібыта смерць.
А мы шукалі браму раю,
Адкуль не поўзаць — а ляцець.
А мы так доўга твань мясілі,
Ламалі голле ўздоўж дарог.
Прыйшлі — а нам не далі крылляў,
Глядзім — а нас не бачыць Бог.
Парэшткі сценаў ды калонаў
Амаль схаваныя ў пяску.
Самотных дзён, начэй бяссонных
Цана — як выцягнуць руку.
Ды горай веданне параніць —
Што нехта варты бачыць там
Мяча архангельскага ззянне
І нетутэйшы светлы храм.

## ТЫДЗЕНЬ ЖАРСЦЯЎ ХРЫСТОВЫХ

Сядміца апошніх пакутаў.
А горад жыве
Жыццём мітуслівым,
працятым чужымі дажджыма.
Кляштар,ператвораны ў дом,
не адкрые павек.
У цемру людскую глядзіцца
сляпымі вачыма.
Нясуць плашчаніцу.
А побач праносяць сябе
Мае суайчыннікі,
дзеці бетоннай купелі.
Самотны ліхтар
так утульна зіхціць на слупе,
Але матылі нарадзіцца
яшчэ не паспелі.

## *МЯСТЭЧКА*

*Карусь Каганец хадзіў удзень з ліхтаром і шукаў беларуса*

Тут, у мястэчку, для шчасця —
надзейны камплект:
Месца для танцаў, пякарня,
шынок і аптэка.
Ёсць варажбітка — сказаць:
ты кароль, не валет.
Ёсць пастарунак —
вартуе спакой чалавека.
Сінематограф?
Няма, ды вось-вось завядуць.
А балаганаў хапае.
Вакол балаганы.
Маецца рэчка,
каб з моста пляваць у ваду.
Ёсць і паэт.
Дэманструе паэтаў заганы.
Млын вадзяны, як належыць,
прытулак чарцей.
Могілкі ёсць, сінагога,
царква і званіца.
Школа, дзе вучаць
на мове чужынцаў дзяцей,
Пустка, дзе можна
напіцца, кахацца, забыцца.

Тут, у мястэчку,
не любяць складаных размоў.
Воля? Якая?
Кнігарня?
Навошта, спадарства?
Ціха рачулка нясе між крутых берагоў
Воды свае запляваныя
ў соннае царства.
Можа, калісьці
чыгунка сюды забрыдзе,
Можа, народзіцца геній
у хатцы тутэйшай.
Ходзіць паэт з ліхтаром
і шукае людзей,
І асыпаюцца лісцем
маўклівыя вершы.

*2013*

## ІМПЕРЫЯ ВЫДМ

*На ўзбярэжжы Балтыйскага мора ёсць запаведнік рухомых дзюнаў — выдм...*

Выдмы ідуць.
Паглынаюць дамы і касцёлы.
Чорныя мёртвыя дрэвы —
як помнікі ім.
Хвалі марскія ўсё прагнуць
прасторы і волі,
І наступае ўсё далей
імперыя выдм.
Белы пясок, а за ім —
цёмна-шэрыя хвалі,
Што ні імперыя —
межы свае праміне.
Ну і навошта
мы храмы свае будавалі,
Бо апынуцца пад выдмамі,
потым — на дне?
Мовай пяску
загавораць лясы і паляны,
І балаты ператворацца
ў белы пясок.
І застанецца над выдмамі
крыжам драўляным
Мачта майго карабля,
што нікуды не ўцёк.

* * *

Чорная восень — мой час улюбёны.
Разам з лісцём  іржавеюць праклёны.
Гэтак адкрытая прага ўмірання.
Плача анёл — надмагільныя камні
Зноў разбіваюць, каб шлях брукаваць.
Мніх выпускае змяю з рукава.
Млявы гандляр выпраўляецца ў шлях,
Знакі шукаць па лясах і палях.
П’е да гаркоты натхненне паэт.
Чорная восень, мой час і мой свет.

## *КУ-ПА-ЛА*

Адчыталі твае вершы,
Слоў накідалі прызнання.
Для чаго табе, паэце,
Мішура ды пазалота?
Як матыль на мокрай шыбе —
Б’ецца сэрца ў не-каханні.
І нічога не дадасца
Да апошняга палёту.
Што паспеў — то й засталося.
Шнар на целе... Медалі ды
Бюстаў бронзавых узводы...
Вершы, сумныя, як восень...
І душа, што сніць не вечнасць —
Беларусі краявіды.

## *ЗАБЫТЫЯ СЛОВЫ, ЗАБЫТЫЯ РЭЧЫ*

Словы забытыя
смаку тугі ды імжы.
Верас праз іх прарастае,
ільюцца дажджы.
Час іх збірае
сармацкае рызы прыпол.
Іх прамаўляе над Свіслаччу
ціхі анёл.
Словы забытыя,
мова радзімы маёй.
Ейныя рыцары
сталі курганнай зямлёй,
Ейныя панны
вучыліся прасці з травы.
Ейныя дзеці,
маўчанню вучыліся вы.
Строі сармацкія
вышыты срэбрам дажджу.
Я праз нямоцтва
ў маўклівае заўтра гляджу.
Верас палае,
прарослы са слоў і крыві.
Шэптам хаця
ты сваю Беларусь ажыві.
Немень
Фарботы
Таемнік
Кудмень
Сполыск
Спазор
Васпан

* * *

Не наступай на конскі чэрап, княжа.
Абрынутыя ў тло жывуць атрутай.
У курганах маўчаць героі нашы,
Затое прадаюцца гучна Юды.
Адным — сціло, другім — стракаты рынак,
А трэцім — ганарыстая пастава.
Манеты льюцца, як залева ў рынах,
І ад змяі не абарона — слава.
І зноў на Страцім-лебедзя чароды
Маленькіх птахаў — утрымай, нябога.
Уладарам чамусь карціць заўсёды
Зрабіць прыступку з велічы былога.
Князь наступае зноў на конскі чэрап,
На рукапісаў стос, на надмагілле...
Змяя слізгае стужкай срэбна-шэрай,
Раўняючы і сілу, і бяссілле.

* * *

Каралі, што чакаць навучыліся
 ў бронзавых снах,
Не раздзеляць з табою
 віно з дзьмухаўцоў і самоту.
Дождж змывае чырвоныя кроплі
 з абрусаў і плах,
Насалода і боль
 за труной ператворацца ў воцат.
Колькі жарсцяў,
 і колькі загубленых дзён і гадоў
Дзеля права калісьці
 застыць збранзавелаю казкай.
Будзем піць журавінавы мёд,
 ён амаль што як кроў.
Не будзі каралёў,
 не збірайся да іх, калі ласка.
Кроплі ціха спаўзаюць па шыбе
 ва ўласную смерць.
Срэбра келіхаў
 прагныя нашыя вусны астудзіць.
Будуць жоўтым агнём
 дзьмухаўцы на адхонах гарэць,
А таго, хто іх летась збіраў,
 у застоллі не будзе.

* * *

Як сны фараонаў,
не хоча канчацца зіма.
Ваўкі ўсё бліжэй
да сядзібы прыходзяць начыма.
Самота... Сумёты...
Найлепшая ў свеце турма —
З уласнай самоты, дзе варта —
анёл за плячыма.
П’еш волю з гарбатай,
а кубак твой прадзед купляў.
Гаворыш з Гарацыем,
не разумееш Вальтэра.
А дзесьці над пляцам
стамлёна звісае пятля,
І снег абдымае
знямелага касіянера.
На мове Статутаў Літоўскіх
дыярыуш твой.
На мове самоты —
твае непачутыя вершы.
Ваўкі падыходзяць да брамы.
І белы сувой
На золку наступным
крывавая сцежка прарэжа.

* * *

Казалі яму:
ты сталеў у траве прыдарожнай.
Ты пішаш пра боль,
і цябе зразумее не кожны.
Ты перліны ў вершы збіраеш,
а як жа каменні,
З якіх аднагодкі складаюць
сусвет летуценняў?
Казалі яму —
ты для нашых шыхтоў перашкода.
Ты нейкі чужы,
ты з мінулага,
супраць народа.
А ён аніяк у шыхты не адолеў раўняцца.
І стане —
а крылаў не скінеш,
дарэмная праца.
Ён сціхне, стаіцца —
з душы Беларусь загукае,
І прывідны лірнік
у славу герояў зайграе.
Ён быў не герой.
Не хацеў забіваць анікога.
Ён нават не ведаў дакладнай дарогі да Бога.
Казалі ж яму: не пішы...
Застанешся на волі...
Пісаў. І памёр.
І яго не згадаюць ніколі.

## *ПАЭТЫ АРТ-НУВА*

Яны плялі арнамент свой са слоў,
Спавіўшы ім кавярні і салоны,
І змешвалі шампанскае і кроў,
І ўсё вянкі дзялілі ды кароны.

У смерць гулялі... А яна прыйшла,
А ў ёй няма паэзіі і прозы.
Разбіўся стод... І аскалёпкі шкла
Засыпалі шляхі, старонкі, лёсы.

І малявальшчык млявых белых німф
З вачыма, як галодныя вуголлі,
Высноўваў на аснове спелых ніў
Жалезныя абрысы новай волі.

А вечны дзёрзкі хлопчык, што ламаў
Радкі, нібы калоссе — варажбітка,
З мансарды глуха праклінаў Манмартр,
Цыруючы пінжак суворай ніткай.

Імёны абляцелі, як букет,
Прышпілены какоткай да шпалераў.
Гербарый вершаў вытрасаў паэт
З-паміж старонак здымнае кватэры.

Не вырасце сабакам ваўчаня,
Згасае на людскім двары бяссіла.
Ды немагчыма неба зачыняць
Для вершаў, прарастаючых з магілы.

* * *

Яна вянок сплятала з палыну,
З багоўкамі — бы кроплямі крыві.
А ён хацеў прабіцца скрозь сцяну,
У скарбаў залаты патрапіць вір.
Яна глядзела на яго здалёк,
На высілкі, з якімі мур ламаў.
І павута ўпляталася ў вянок,
І быльнягом гасцінец зарастаў.
Калі ж здаліся змрочныя муры,
І з куфра збіў герой цяжкі замок,
Пагасла сонца ў залатым віры.
На дне ляжаў палынавы вянок.

## *АТЛАНТЫДА*

Адплылі караблі, на якіх ратавацца хацелі.
Нават чоўны маленькія ў хвалі памкнулі,
як рыбы.
Голас мора гукае у ракавінцы апусцелай,
Ды на беразе мы засталіся, без крылаў,
без німбаў.
Без надзеі, без веры — з чаканнем апошняе хвалі.
Дзесьці там, на галерах, святкуюць часовую волю.
Нас бязлітаснай смерці яны пакідалі без жалю,
Ды ў апошнія хвілі не трэба праклёнаў і болю.
Што паробіш? На палубах месца бракуе заўсёды.
Нехта мусіць застацца і выкупіць жыцці чужыя.
Хай над храмамі нашымі стануць нябёсамі воды,
І апошняга сну Атлантыды ніхто не адкрые.

## *МАЎЧАННЕ ЯГНЯТАЎ, альбо ЦЫКЛ ПРА МЕРЦВЯКОЎ*

### *1.*

Паміж асфальтам, небам і труной,
На вастрыі прыціхлага натоўпу
Мярцвяк ідзе ў метро, і пад нагой
Хрумсцяць мятлушкі мараў пра Еўропу.
Натоўп віруе, як пчаліны рой,
Ды не сабраны мёд з каменных кветак.
Ідзе на працу мёртвы наш герой,
На пластыкава-лічбавы палетак.
Каб хоць на міг адчуць усплёск жыцця,
Калі ад гневу загарацца вочы,
Калі ад бессэнсоўнасці жыцця
І насамрэч памерці ён захоча.

### *2.*

*«І толькі надпіс "Вераніка",*
*на дрэве ўрэзаны ў кары...»*
**М. Багдановіч**

Як казаў Блажэнны Аўгустын,
Верым мы таму, чаго не бачым.
У абдоймах лютаўскай вады
Не халодны ты і не гарачы,
Паядальнік піцы, вечны раб
Манітора. Офісны планктончык.
І навошта бог усходу Ра
Зазірнуць спрабуе ў нашы вочы?

Пакаленне Віяў... Прыраслі
Да клавіятур усе павекі.
Камяні вандруюць па зямлі,
Скрышаныя воляй чалавека.
Сцены замка лягуць пад асфальт,
Бронзавы паэт даўно прададзены.
І навошта гэты дзікі сад,
Дзе няма імёнаў закаханых.

### *3. А ПА КАЛІ*

Мы зварылі чарапахавы суп.
Свет пляскаты паляцеў, быццам фрызбі.
Я ў далонях жменю солі нясу —
Назапасіць перадохлую рыбу.
Месяц дзіркі мае ў сырным баку —
Беларускі заяц піва закусваў.
Былі войны і на нашым вяку,
Кубкі воцату гарчылі ля вуснаў.
Мы абрынулі уласны сусвет
Проста так, а не ў спадзеве на лепшы.
Паліць вершы палыселы паэт,
А яны не разгараюцца, вершы...

### *4.*

*Я не читал баллады Оссиана...*
**В. Мандэльштам**

Халодным словам скальды не дасталі
Да выпаленых душ маёй эпохі.
Вадой на вугалях, крывёй на сталі
Растала памяць — і сцякла пад ногі.
Герояў цені водзяць карагоды
Вакол празрыстых вогнішчаў Вальгалы.
Мы словы адсылаем у паходы —
Заваяваць часы і нас уславіць.

Ды кволыя пасланнікі нямеюць
На паўдарозе да вучоных кафедр.
І валацуга, перабраўшы смецце,
Падвяжа чаравік струной ад арфы.

### *5.*

Сядзі сабе на голлі
І ціхенька цікуй,
Як паляць ваша поле,
Як не хапае куль.
Сядзі сабе, шчаслівы,
Што ты не ўнізе больш,
І наша справядлівасць
Табе — ламаны грош.
Паціўкай. Крылцы вымкні —
Не зважаць на зямлі,
Дзе ў чорным павуцінні
Змаўкаюць і чмялі.
Адплакаў, адпакутваў...
Не адбіваўся, не —
Не Праметэй прыкуты —
Анучка пры сцяне.
Прасіўся, ціўкаў, ціўкаў...
Знялі зямную плоць,
І верабейкам ціхім
Зрабіў цябе Гасподзь.

## ТУТ-2

Сюды не заходзяць,
таму што расчынены дзверы
Наросхрыст, наросхрыст
расчынены дзверы і вокны,
І выдзьмута ўсё,
ува што заставалася верыць,
І выстыла ўсё —
да бяспамяцтва, бездані, костак.
Аблокі плывуць
і нагадваюць брудную вату.
Млыны зруйнаваныя,
жорнавы млеюць у твані.
Імя асабовае мелі
званы і гарматы,
А нашы імёны агульныя,
як прыбіральні.
Адны скразнякі, скрыжаванні
і шал паляўнічы
На змрочных балотах,
на пустках смугі вераснёвай.
І блазны, і каты
свае захавалі аблічча,
А тут — ні аблічча, ні слова,
ні модлаў, ні мовы.

Сюды не заходзяць,
тут проста жывуць і канаюць.
Прыходзь, называй нас як хочаш,
калі заманецца.
Гарыць жоўтым полымем лотаць
у кожнай канаве.
І б'ецца няўмольна
дрыгвы нескаронае сэрца.

* * *

Забытыя могілкі ў попеле спаленых кніг,
У сцёртых слядах за радзіму памерлых герояў.
Шукаць іх не стануць,
                    як Шліман — антычную Трою,
На нашай Айчыне кладоў незлічона такіх.
Тут вечнасць пяском насыпаецца ў чаравікі,
У вочы ляціць павуціннем,
                    чапляецца голлем.
Нашто мітусня, калі могілкі стануцца полем?
І горад урэшце становіцца полем такім.
Мінулае спіць,
                    а над ім пустазелле і глог.
Абліччы памерлых
                    памерлыя помняць адныя.
Тут дом пабудуюць,
                    і ў комінах вецер завые,
І збочыць з дарогі,
                    кладамі пракладзенай, Бог.

* * *

Тры сцяжынкі, тры сняжынкі,
Нуль надзеяў, смецце мар.
Нешта слушнае гаворыць
мой чарговы гаспадар.
Я ж няправільная кветка
ў ікебане гэтых сцен,
Бо жывая, бо жадаю,
бо сплываю кроўю з вен.
Зноў сцяжынкі завіруха ператворыць у палі.
А жыццё маё малюе
нейкі Сальвадор Далі.
Не разблытаць слоў і сэнсаў.
Лабірынты. Вітражы...
Ненароджаныя вершы —
як тапельцы — у душы.
Гулка тупаюць Галемы
калідорамі зімы,
І маўчаць, як Фудзіямы,
мёртвых класікаў тамы.

* * *

Снежная Каралева
                жыве ў ільдзяным палацы.
Снежная Каралева
                ніколі не танчыць на пляцы.
Снежная Каралева
                збірае хлопчыкаў злосных
І тчэ дзеля іх сувоі
                на белых вялікіх кроснах.
Квітнее на шыбах шэрань,
                цвітуць за шыбай вазоны.
І той, хто гадуе кветкі,
                не прагне снежнай кароны.
Але — такая ўжо праўда,
                такая ўжо ў казкі сіла:
Калі расцвітаюць кветкі,
                іх кладуць на магілы.
Ляжаць на сумётах ружы,
                стаяць у сумётах дрэвы.
І гулка грукочуць кросны
                Снежнае Каралевы.

## *ХОМА БАЛОЦІКУС*

Ён проста звык у твані жыць — і жыў,
Дрыгвою дыхаў, харчаваўся раскай,
Між небам і зямлёю, на мяжы,
Якую называлі страшнай казкай.
Ён не аброс лускою, не пачаў
Падобным быць да жабы ці трытона.
Ён проста сноў не бачыў, апрача
Балотных сноў, бясколерных, бяздонных.
Свае былі тут радасць і краса:
Пунсовым жалем спелі журавіны,
Гарлачык ззяў, свяцілася раса.
І думаў ён: няма найлепш краіны!
Дзень амярцвеў, бы кветкі амялы.
Адно пытанне не даецца ў рукі:
Нашто яму на спіне два крылы?
Бо так нязручна з імі між гадзюкаў.

* * *

Да неба белы дыван
                    ляжыць праз поле крыжоў.
Сляды вандроўнай душы — адна малітва без слоў.
Сляды пакінутых тут —
                    як абарваная ніць.
Нібы малітва без слоў,
                    пад снегам спяць карані
Даўно пасечаных дрэў, даўно пасушаных траў.
Ты замаўчаў ад таго,
                    што словы снегу аддаў,
Каб белы-белы дыван
                    да неба нас падымаў,
Да Бога нас падымаў.

* * *

*Сабакі дажджу — так называюць тых, хто пакінуў*
*і аніяк не аднойдзе свой шлях...*

**Том Уэйтс**

Сабака дажджу аніколі не знойдзе свой дом.
Дзе анёл, дзе ліхтар?
Толькі светлыя плямы ў залеве.
Змыты пахі і змыты сляды, і здаецца ільдом
Наша неба, і голае голле —
як шнары на целе.
Сабака дажджу
заблукаў у апошнім дажджы.
Ён шукаў тыя дзверы,
куды не заходзяць забойцы,
Ён шукаў тыя вуліцы, дзе не пільнуюць віжы,
Дзе ў апошні глыток не ўліваюць
атруту і стронцый.
Звер наіўны,
спароджаны дымам і тлом гарадскім,
На рэкламу кавярні зіхоткую
вые і плача.
Ці ў двары забрыдзе,
заварожаны следам чужым,
Ці сваё люстраванне
на мокрым асфальце пабачыць.
Шэры — колеру хмары,
цікаўны і смешны такі.
На калматае поўсці
згасаюць імгненна дажджынкі.

Абыходзяць яго, адганяюць далей мінакі.
Ну а ён гаспадарскай ніколі не зведаў рукі,
І ніхто на яго
не надзене
ніколі
ашыйнік.

* * *

А я ўсё гадую свой сад на чужых камянях,
Ды ў чорных расколінах толькі імхі прарастаюць.
І дні прарастаюць сівою травою пры днях,
І ночы злятаюць грыфонамі скіфскага раю.
Мне сад толькі сніцца — сузор'ямі спелых пладоў,
Сагрэтай лістотай, падобнай да летняга мора.
А тут — камяні. Тут не сад, не вакзал і не дом,
Тут — холад і цвердзь, і патрэба адвечнай пакоры.
Гадую свой сад.
Гінуць парасткі, гінуць сябры.
Калені і рукі разбіла аб шорсткія глыбы.
Навошта ў даліну? Мой сад зацвіце на гары,
І ў мора лістоты нырнуць аблачыны, як рыбы.
І нават калі дзеля гэтага між камянёў
Мне прыйдзецца легчы, каб глебаю
стаць урадлівай,
Хай станецца...
З неба пральецца празрыстая кроў,
І сад мой на хвілю
Зямлю маю зробіць шчаслівай.

* * *

Я не ведаю, Ойча, ці варта ісці брукаванкай.
Там не бачна слядоў,
там — туга выпадковых сустрэчаў.
Быццам рыбіны мёртвай луска —
камяні пад нагамі.
А як падаць балюча!
Хай падаеш нават у Вечнасць.
Так што, Ойча, я збочыла... Вось і блукаю...
А вецер
Як праўдзівы паэт беларускі —
скуголіць, нябога.
А каму зараз лёгка?
Магілу купі ў Інтэрнэце,
Аватарствуй і цешся,
што столькі наведнікаў блога.
Кожны прэ на гасцінец!
Ніхто ў маргіналы не хоча.
Лічаць камні, радкі, нумары і паднятыя рукі...
Я аблокі лічу...
Я не ведаю ісціны, Ойча...
Я ніколі не буду хадзіць, як належыць,
па бруку.

* * *

*Па матывах рамана Вебера «Дыханне багоў»*

Народ скарабеяў ізноў пірамiды складае.
Арлiны народ па шуфлядах шукае штандары.
А мы пад крыламi буслiнымi сумна гадаем,
Дзе вырай, якi
уцялесніць намеры і мары.
А я не гадаю.
За столікам беднай кавярні
Мігціць, быццам сэрца праданае, белая свечка.
Час лена грукоча
бясконцым саставам таварным,
Жыццё нада мной зачыніла блакітнае вечка.
Народ белых барсаў
замежных вядзе альпіністаў
Па стромых маршрутах
за досыць прыстойную плату.
Народ бегемотаў
скупляе ў Чачні аўтаматы,
А людзі-дэльфіны
даюць пакаленні артыстаў...
А ў беднай кавярні буслінага племені — ціха.
Гарбата на зёлках
у кубку з зялёнага лёду.
Зямлю падзялілі без нас.
Забірайце, на ліха.
Мы зладзім буслянку.
І жаб нацягаем з балота.

